# Голас Радзімы

№ 14 (2104)
6 красавіка 1989 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.



Вызначыць тыповы беларускі краявід—справа няпростая. У каго ні спытай, кожны нешта сваё ў душы адшукае. Для аднаго чалавека гэта можа быць стары бор, дзе ён яшчэ дзіцем збіраў арэхі, грыбы, для другога дарагім стала ціхае празрыстае возера, трэці прыгадвае павольную плынь рэчкі, побач з якой стаяла бацькоўская хата. Паняцце Радзімы адзінае, і разам з тым глыбока асабістае для кожнага з нас.

НА ЗДЫМКУ: Валожыншчына.

Фота Я. КОКТЫША.

КІРМАШ НА ЗАВОДЗЕ





Непасрэдна ў цэхах праходзіла выстаўка-продаж станкоў аршанскага завода «Чырвоны барацьбіт», на якой прысутнічалі прадстаўнікі вядомых фірм Еўропы, а таксама іх калегі з Сінгапура і Тайланда. Гэты своеасаблівы кірмаш быў арганізаваны не толькі з нагоды запуску ў серыйную вытворчасць новых машын з лічбавым праграмным кіраваннем і апрацоўчых цэнтраў, але і для таго, каб залучыць новых замежных партнёраў. Ужо сёння прадукцыю аршанскіх станкабудаўнікоў добра ведаюць і ахвотна купляюць у 88 краінах. Гэтая выстаўка садзейнічала расшырэнню дзелавых сувязей прадпрыемства. Пры дапамозе спецыялістаў знешнегандлёвага аб'яднання «Станкаімпарт» на ёй былі заключаны новыя кантракты.

НА ЗДЫМКАХ: больш 10 гадоў з беларускімі станкабудаўнікамі плённа супрацоўнічае заходнегерманская фірма «Эльб-Шліф». Злева-направа: дырэктар завода «Чырвоны барацьбіт» Анатолій МІЛАСЭРНЫ, генеральны дырэктар аб'яднання «Станкаімпарт» Уладзімір МАРЫНІН і тэхнічны дырэктар фірмы «Эльб-Шліф» (ФРГ) Ханс МООР; у зале выстаўкі.

ЗАКЛЮЧАНЫ ДАГАВОРЫ

## СУВЯЗІ МАЦНЕЮЦЬ

Цесныя навукова-тэхнічныя сувязі наладжаны паміж Брэсцкім вытворчым дывановым аб'яднаннем і аднапрофільнымі прадпрыемствамі—аб'яднаннем «Бытэкс» (ЧССР) і венгерскай фабрыкай «Шопран».

Заключаны дагаворы, якімі прадугледжваецца шырокі абмен перадавым вытворчым вопытам, прагрэсіўнымі тэхналогіямі, тэхнічнай дакументацыяй. У ходзе прамых сувязей ажыццяўляецца абмен паўфабрыкатамі.

Дасягнута таксама дамоўленасць аб супрацоўніцтве брэстаўчан з польскімі калегамі—заводам «Бесама» ў горадзе Бельска-Бяла і фірмай «Тэкстыльімпэкс». Сёлета партнёры паставяць у Брэст сучаснае тэхналагічнае абсталяванне і запасныя часткі да яго.

ПРАДПРЫМАЛЬНАСЦЬ

## «ЗНАЙШЛІ» ВАЛЮТУ НА ДАРОЗЕ

Незвычайная ў вёсцы пасада—экскурсавод—з'явілася ў калгасе «Чырвоны Кастрычнік» Стаўбцоўскага раёна. Уладанні гаспадаркі перасякае аўтамагістраль Берлін—Масква, па якой у Савецкі Саюз штодзённа едуць шматлікія зарубежныя турысты. «Інтурыст», з якім калгас заключыў дагавор, прапануе ім зрабіць тут прыпынак. Для гасцей з-за рубяжа арганізуюць экскурсіі, іх знаёмяць з жыццём і бытам беларускіх сялян, становішчам спраў у аграпрамысловым комплексе. Пасля агляду замежных гасцей частуюць мачанкай, калдунамі, гарачымі аладкамі і іншымі стравамі беларускай кухні.

Абслугоўваць замежных турыстаў калгаснікі вырашылі на пасяджэнні праўлення, калі абмяркоўвалі пытанне, як камп'ютэрызаваць падшэфную школу. Набыць сучасную электронную тэхніку без валюты практычна немагчыма. Пачалі шукаць, дзе зарабіць неабходныя для гэтага грошы. Разлік аказаўся правільным.

У хуткім часе будзе адкрыты невялікі мастацкі цэх, у якім мясцовыя ўмельцы — разчыкі па дрэву — пачнуць рыхтаваць нацыянальныя сувеніры.

ВЕРНУТЫ НАЗВЫ

## У ІМЯ СПРАВЯДЛІВАСЦІ

Не чакаючы ўказанняў зверху, на сваім справаздачна-выбарным сходзе працаўнікі калгаса імя Жданава Старадарожскага раёна прынялі рашэнне аб перайменаванні яго ў калгас «Арэса».

Шмат гадоў назад імя сталінскага прыслешніка, вінаватага ў масавым беззаконні ў гады культу асобы, было навязана мясцовым сялянам. І вось цяпер, у час перабудовы, яны рашуча адмяжоўваюцца ад яго.

Перайменаванне калгасаў, якія носяць імя Жданава, праходзіць і ў іншых раёнах Міншчыны. Напрыклад, у Клецкім цяпер ужо былому калгасу імя Жданава вернута яго старая назва — «Авангард», а ў Салігорскім такая гаспадарка па патрабаванню мясцовых жыхароў стала называцца «Беларусь».

САЦЫЯЛЬНАЕ РАЗВІЦЦЁ

## ПРЫБАЎКА ДА ПЕНСІІ

Значна павялічана пенсія ветэрану калгаса «Парыжская камуна» Пружанскага раёна Ніне Ліцкевіч па рашэнню сходу ўпаўнаважаных гаспадаркі. Ніна Іванаўна з першага дня арганізацыі калгаса старанна працавала ў жывёлагадоўлі, за што ёй было прысвоена ганаровае званне «Заслужаны калгаснік». А ўсяго ў гаспадарцы такога гонару ўдастоены 14 чалавек. Ім таксама павышана пенсія да 110 рублёў, аказваюцца бытавыя паслугі на льготных умовах. У бок павелічэння перагледжаны тут пенсіі іншым ветэранам вытворчасці, удзельнікам Вялікай Айчыннай вайны, інвалідам, сем'ям загінуўшых.

Надбаўкі да пенсій заслужаным работнікам калгаса і саўгасаў устаноўлены ў многіх іншых гаспадарках.

ЯНЫ АБАРАНЯЛІ РАДЗІМУ

## УЗНАГАРОДА ПРАЗ ГАДЫ

Нядаўна ветэрану вайны Васілю Бураму, які жыве ў Мар'інай Горцы, пазваніў знаёмы і настойліва парэкамендаваў знайсці штотыднёвік «Ветэран» № 1. Адкрыў яго Васіль Еўдакімавіч — і вачам сваім не паверыў: «За баявыя подзвігі і заслугі ў перыяд Вялікай Айчыннай вайны ўзнагароджаны ордэнам Чырвонага Сцяга... Буры Сцяпан Еўдакімавіч...»

Так, праз многа гадоў атрымаў Васіль Еўдакімавіч вестачку аб браце, які змагаўся з ворагам у радах партызанскага злучэння на Магілёўшчыне, а затым на Брэстчыне. Пасля вызвалення Беларусі ён пайшоў на фронт і загінуў.

Усе браты Бурыя змагаліся з ворагам у партызанскіх атрадах. Трое з іх загінулі, абараняючы Радзіму.

КЛУБ «ФАУНА»

## «ГАСЦІНІЦА» ДЛЯ ЖЫВЁЛ

У Гомелі пры Палацы культуры хімзавода створаны гарадскі клуб «Фауна».

Ён аб'ядноўвае аматараў жывёл, птушак і акварыумных рыбак. Савет клуба ставіць сваёй задачай задавальняць спартыўна-службовыя, фізкультурна-аздараўленчыя, культурныя, эстэтычныя і навукова-пазнавальныя інтарэсы аматараў прыроды.

У клубе можна абмяняць хатніх жывёл адной пароды на другую, набыць пеўчых птушак і разнастайных рыбак для акварыумаў.

«Фауна» будзе прымаць у сваю «гасцініцу» кошак і сабак ад гамяльчан, якія выязджаюць з сем'ямі на перыяд водпуску ў іншыя гарады.

НА РАДАСЦЬ ДЗЯТВЕ

## ЗВЯРЫ АБЖЫВАЮЦЬ ПАРК

На радасць дзятве і дарослым адкрыты заалагічны куток у Пінскім гарадскім парку культуры і адпачынку. Тут пасяліліся бурыя мядзведзі, поні, арол, дэкаратыўныя карлікавыя куры і іншыя рэдкія прадстаўнікі еўрапейскай і азіяцкай фауны. Дырэкцыя парку закупіла іх у розных гарадах краіны, пакляпацілася пра клеткі і вальеры, паўнацэнную ежу. Асабліва мнагалюдна тут у выхадныя дні, калі дзеці прыходзяць разам з бацькамі, прыпасаючы загадзя ласункі для ўсеагульных любімцаў — мядзведзянят Цімура і Тарзана.

У бліжэйшы час плошча заалагічнага кутка будзе расшырана да палавіны гектара. Поўным ходам вядзецца будаўніцтва новых клетак і вальераў. У іх паселяцца малпы, якіх даставяць у Пінск з Гродзенскага заапарку, фазаны і паўліны, закупленыя ў Луцку.

ЭКСПРЭС-ІНТЭРВ'Ю

# ШКОЛА ДЭМАКРАТЫІ

**26 сакавіка ў Савецкай краіне адбыліся выбары народных дэпутатаў СССР. Сёння мы гаворым, што яны з'явіліся для ўсіх грамадзян СССР сапраўднай школай дэмакратыі. Упершыню выбары праходзілі ў дзелавой, спакойнай атмасферы, без непатрэбнай параднасці. Упершыню народ самастойна рабіў свой выбар, рашаючы, каму даверыць уладу. З нецярплівасцю чакаліся і першыя вынікі галасавання.**

**З кароткіх паведамленняў прэсы, радыё і тэлебачання пакуль яшчэ цяжка скласці поўную карціну таго, як яны завяршыліся. Але ў Вярхоўным Савеце БССР, падумалі мы, інфармацыя павінна быць найбольш поўная. Карэспандэнт «Голасу Радзімы», як і напярэдадні выбараў, звярнуўся (на гэты раз па тэлефоне) да сакратара Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР Людмілы СЫРАЕГІНАЙ.**

**— ЛЮДМІЛА МІКАЛАЕЎНА, ЯК ПРАЙШЛІ У НАС У РЭСПУБЛІЦЫ ВЫБАРЫ НАРОДНЫХ ДЭПУТАТАЎ СССР? ЯКІЯ ВЫНІКІ ГАЛАСАВАННЯ!**

— У згаданым вамі інтэрв'ю я адзначала, што ў Беларусі ўтворана 60 выбарчых акруг. Галасаванне праводзілася ва ўсіх акругах, але абрана пакуль што толькі 47 народных дэпутатаў (размова наша адбывалася 29 сакавіка.— Кар.). У 13 акругах выбары не завяршыліся. Ніхто з прэтэндэнтаў, нават калі іх было і два, і тры на адзін мандат, не набраў тут неабходнай колькасці галасоў.

Сярод тых, каму народ аказаў давер і хто ў сумленнай барацьбе заваяваў дэпутацкі мандат, — прадстаўнікі розных слаёў грамадства, людзі самых розных прафесій. Народнымі дэпутатамі СССР абраны 12 партыйных і савецкіх работнікаў рэспублікі, токар-расточнік Мінскага маторнага завода Л. Дзюсаў, трактарыстка саўгаса «Мара» Барысаўскага раёна М. Абрамовіч, апаратар машыннага даення племзавода «Насовічы» Добрушскага раёна К. Хлябцоў, загадчык кафедры Мінскага радыётэхнічнага інстытута У. Лабуноў...

У галасаванні ў нас прыняло ўдзел 92 працэнты зарэгістраваных выбаршчыкаў, або звыш 7 мільёнаў чалавек. Іх стаўленне да кандыдатаў, якія балаціраваліся ў народныя дэпутаты, было крытычным і неадназначным. Таму няредкія выпадкі, калі перамагаў чалавек малавядомы, даволі сціплы, а не той, хто па ўчарашніх мерках амаль аўтаматычна атрымліваў мандат ад народа на кіраванне.

Не набралі патрэбнай колькасці галасоў некаторыя кіраўнікі мясцовых партыйных і дзяржаўных органаў. У прыватнасці, не выбраны дэпутатамі першы сакратар Мінскага гаркома КПБ У. Галко, першыя сакратары абкомаў партыі: Гомельскага — А. Камай і Магілёўскага — В. Ляонаў, старшыня Магілёўскага аблвыканкома А. Кічкайла, першы намеснік Старшыні Савета Міністраў, старшыня Дзяржаграпрома БССР Ю. Хусаінаў.

**— ЦІ АЗНАЧАЕ ЎСЁ ВЫШЭЙСКАЗАНАЕ, ШТО ВЫБАРЫ МОЖНА АЦЭНЬВАЦЬ ЯК ПЕРАМОГУ ДЭМАКРАТЫІ!**

— Несумненна, гэта перамога дэмакратыі. Работа ў дзень выбараў вялася спакойна, карэктна, згодна з Законам. Як я ўжо казала, былі нечаканасці. І мы ў далейшым будзем выпрацоўваць свае, уласцівыя нашаму ладу нормы палітычнай маралі, свае адносіны да перадвыбарчай барацьбы. Калі была барацьба, то былі і пераможаныя. І, я думаю, ім варта крытычна прааналізаваць сваю пазіцыю, каб зразумець, якія практычныя дзеянні ці асабістыя якасці не задавальняюць выбаршчыкаў, якія промахі дапушчаны ў час перадвыбарчай кампаніі. Пралікі гэтыя нам яшчэ прадстаіць аналізаваць.

**— ЛЮДМІЛА МІКАЛАЕЎНА, ЗНАЧЫЦЬ У ТЫХ 13 ВЫБАРЧЫХ АКРУГАХ, ДЗЕ НЕ НАЗВАНЫ НАРОДНЫЯ ДЭПУТАТЫ СССР, БУДЗЕ ПРАВОДЗІЦЦА ШТО: ПЕРАВЫБАРЫ ЦІ ПЕРАГАЛАСАВАННЕ!**

— У трох акругах, дзе было па тры кандыдаты, выбаршчыкі не здолелі адразу вызначыць сваіх дэпутатаў. Тут будзе праведзена перагаласаванне. У бюлетэні ўносяцца ўжо толькі два прэтэндэнты, што 26 сакавіка набралі найбольшую колькасць галасоў.

У дзесяці іншых акругах рэспублікі, дзе не вызначаны дэпутаты, будуць праводзіцца паўторныя выбары. Яны прызначаны на 14 мая. Ім будзе зноў папярэднічаць перадвыбарчая кампанія.



*СЕЛЬСКАЯ МЕДЫЦЫНА: НАДЗЕІ І РЭАЛЬНАСЦЬ*

# ЦІ МНОГА ЧАЛАВЕКУ ТРЭБА?

**Многа.** У жыцці ў кожнага чалавека патрэбы немалыя: ён хоча мець цікавую работу, атрымліваць добрыя прадукты харчавання, купляць у магазіне прыгожае адзенне, прыходзіць пасля працы ва ўтульную, зручную кватэру, калі ёсць неабходнасць, звярнуцца ў любы момант да кваліфікаваных, уважлівых урачоў. Нехта скажа: «Ці ж пералічанае — так многа?» Дык гэта з якога пункту гледжання зыходзіць. Калі з пазіцыі добра ўсталяванага, наладжанага сучаснага быту гарадоў, з пазіцыі агульначалавечых норм жыцця,— безумоўна, нямнога (хаця, калі па шчырасці, то і ў вялікім горадзе праблем хапае). А вось калі паглядзець вачамі сельскага жыхара...

Не ўсё проста складваецца ў вясковым жыцці ў той сферы, якая завецца сацыяльнай. І, бадай, самыя вялікія прэтэнзіі будуць да медыкаў, да аховы здароўя сялян.

Колькі пісана-перапісана ў савецкай прэсе пра тое, што наша медыцына апынулася ў трывожным становішчы. Сыплюцца скаргі хворых на няўважлівасць, а часам і некампетэнтнасць урачоў, патокам льюцца скаргі, толькі ўжо медыкаў, на адсутнасць добрых умоў працы, патрэбнага абсталявання, нават лякарстваў, іншых медыкаментаў. І ўсе гэтыя праблемы ў некалькі разоў ускладняюцца ў сельскай мясцовасці. Адставанне аховы здароўя на вёсцы — з'ява неадасобленая. Яна заканамернае звяно ў ланцугу іншых вострых праблем, якія адмоўна ўплываюць на ўмовы жыцця сялян. Дзесяцігоддзямі патрэбы вёскі заставаліся нават не на другім, а яшчэ на больш далёкім плане. І ў выніку вёска, наша нястомная, працавітая беларуская вёска, абяссілела, што адразу адчуў на сабе і горад.

Ёсць, безумоўна, ёсць на Беларусі добрыя, проста выдатныя прыклады сапраўды ўважлівых, гаспадарскіх адносін да жыцця сялян. І калгасы-мільянеры багацеюць, і цудоўныя вёскі з катэджамі ўздоўж заасфальтаваных вуліц, на якіх нават святлафоры ўстаноўлены, вабяць моладзь. Між іншым і многія нашы землякі, што прыязджаюць у госці на Радзіму, гавораць: з той пары, як прыйшлося ім дзесяткі гадоў назад пакінуць родныя мясціны, беларуская вёска змянілася непазнавальна. Іх пачуцці зразумелыя, і ацэнка ўбачанага аб'ектыўная. Але сённяшні беларускі селянін меравае сваё жыццё ўжо іншымі меркамі. І яго не можа задаволіць, напрыклад, становішча, калі, каб трапіць да ўрача ў раённай бальніцы, даводзіцца страціць цэлы дзень. Ды і даехаць хвораму чалавеку з далёкай вёскі таксама няпроста. На жаль, пакуль не ўсе нашы гаспадаркі маюць мільённыя прыбыткі, і нават там, дзе яны ёсць, грошы не заўсёды ў першую чаргу выдаткоўваюцца на будаўніцтва бальніцы ці рамонт Дома культуры. Хутчэй вырасце яшчэ адзін адкормачны комплекс, ці будуць закуплены дадатковыя трактары. Гэта нярэдка нават і заахвочвалася вышэйстаячым кіраўніцтвам. А за «незапланаваную» будоўлю школы ці паліклінікі можна было і вымову атрымаць: справа, лічылі, — другарадная.

Недапушчальнасць астаткавага прынцыпу ў развіцці сацыяльнай інфраструктуры вёскі, здаецца, зразумелі ўсе, нельга болей злоўжываць сялянскай цярплівасцю. Але сёння ў нашым жыцці знайшлося столькі прарэх, што невядома, як і чым іх найхутчэй залатаць. Сталі шукаць дадатковыя магчымасці і рэзервы.

Аказалася, калі вельмі захацець і добра падумаць, то нейкае выйсце знойдзецца. У выніку ў Докшыцкім раёне, напрыклад, летась на медыцынскую праграму выдзелілі 6 мільёнаў рублёў, сваіх уласных, раённых, не з дзяржаўнага бюджэту. Намецілі, што трэба зрабіць: пабудаваць некалькі ўчастковых сельскіх бальніц, аптэкі, адкрыць фельчарска-акушэрскія пункты ва ўсіх аддаленых ад райцэнтра вёсках. Спачатку не верылі нават самі сабе, што за год-два можна карэнным чынам змяніць становішча ў мясцовай сельскай медыцыне: грошы грашыма, планы планамі, а многія будматэрыялы ў нас лімітаваны, медыцынскае абсталяванне няпроста купіць. Выйсце шукалі ўсе разам. Нешта рабілі на месцы: напрыклад, адкрылі ў калгасах сталярныя цэхі. Ездзілі аж ва Узбекістан па мармур (так вырашылі: ніяк не менш, чым мармур, патрэбны). Для аздобы памяшканняў набывалі вырабы дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Тут сталі вельмі папулярнымі словы, якія, як лічаць, належаць Гіпакрату: «Дзе любяць чалавека, там паважаюць мастацтва». Таму і мармур не ўспрымаюць нейкай раскошай у сельскай бальніцы. Святлана Гром, галоўны ўрач бальніцы ў вёсцы Ваўкалаты, лічыць: тут ён больш патрэбны (прыгожа, даўгавечна, гігіенічна), чым у рэстаране ці кафэ, дзе мармуру ў нас нямала. Дарэчы, зусім нядаўна бацьніца ў Ваўкалатах уяўляла сабой наступную карціну: бальнічныя ложкі стаялі непасрэдна ў амбулаторыі, якая ў сваю чаргу мясцілася ў вялікай хаце аднаго з калгаснікаў... Сёння побач з новым бальнічным корпусам — аптэка, асобна амбулаторыя, кацельня, склады. Калі ж уваходзіш унутр бальніцы, уражвае яе інтэр'ер. Той жа мармур, мастацкі роспіс, гіпсавая ляпніна. Нічога не нагадвае традыцыйна голыя, сумныя бальнічныя калідоры. І людзі ацанілі новаўвядзенні па вартасці. Міністр аховы здароўя СССР Яўгеній Чазаў, які наведаў Віцебшчыну, прыгадваў, як завітаў у сельскую ўчастковую бальніцу і там пачуў ад вяскоўцаў: «Зараз мы пераканаліся: перабудова пачалася».

Сапраўды, толькі адчуўшы клопат аб сваім паўсядзённым жыцці, у тым ліку і на аддаленым хутары, вясковец паверыць у перамены. Няма ў кожным населеным пункце пакуль магчымасці трымаць стацыянарную медыцынскую ўстанову. Сяляне разумеюць гэта. Але зрабіць так, каб людзі менш цярпелі ад падобных выдаткаў — абавязак грамадства. У нашых сілах зрабіць хаця б так, як робяць у невялікай вёсачцы Мікульні, ад якой да райцэнтра Докшыцы 30 кіламетраў. У цэнтры гаспадаркі, куды ўваходзіць вёска, адкрылі фельчарска-акушэрскі пункт, і ўрачы ездзяць у Мікульню і іншыя такія ж невялічкія паселішчы па загадзя вызначанаму графіку. Не раскоша, безумоўна, але ўсё ж больш-менш дастойнае выйсце для мясцовых сялян.

Многім вяскоўцам спадабаліся і зусім новыя формы абслугоўвання, прапанаваныя ім медыкамі. Напрыклад, дзённы стацыянар. Хворыя дзень знаходзяцца ў стацыянары бальніцы, атрымліваюць лячэнне, а вечарам спецыяльны аўтобус развозіць іх па хатах, каб раніцай зноў забраць да ўрачоў. З асаблівай прыхільнасцю сустрэлі такую форму лячэння вясковыя кабеты. Добра вядома, як цяжка сялянцы пакінуць на некалькі тыдняў дом, гаспадарку, дзяцей без нагляду. Таму і церпяць многія з іх свае «балячкі», пакуль ногі носяць. А пры дзённым стацыянары ёсць магчымасць і лячыцца, і хатнія справы кантраляваць. Для сельскага жыхара вельмі важны псіхалагічны момант — не адрывацца ад дому.

Не забываюць на Віцебшчыне і пра старых людзей. Напрыклад, у Параф'янаўскай сельскай бальніцы ветэранам і інвалідам стварылі асабліва зручныя ўмовы, размяшчаюць у палатах не больш чым па 2 чалавекі, дзе ёсць тэлевізар, халадзільнік. Тут разумеюць: пасля доўгіх гадоў нялёгкага жыцця і цяжкай, часам і няўдзячнай сялянскай працы трэба аддаць людзям доўг.

На Шаркоўшчыне ж прапанавалі ўласную ініцыятыву: ствараюць тут жа, у сваіх вёсках, спецыяльныя дамы для мясцовых састарэлых людзей, куды па ўласнаму жаданню яны могуць перабірацца, скажам, на зіму, бо не ўсім пад сілу паліць уласныя печы, насіць ваду з калодзежа. Увесну ж, калі прыгрэе сонца, звычайна жыхары такіх пансіянатаў зноў вяртаюцца ў родныя сцены. Гэта куды больш міласэрна, чым проста займацца маралізатарствам і каторы раз «кляйміць» няўдзячных дзяцей.

Гады два назад у час камандзіроўкі ў Пастаўскі раён я бачыла яшчэ не закончаную, але ўжо амаль пабудаваную бальніцу ў калгасе імя Суворава. Нават у незавершаным выглядзе яна была непадобная на традыцыйныя стацыянары. Адчувалася: тут будуць лячыць не толькі лекамі, але і чалавечай увагай, клопатам, цеплынёй. Сёння бальніца працуе. Акадэмік Чазаў сказаў пра яе так: «Гэта — XXI стагоддзе». Прыемна чуць такую высокую ацэнку ды яшчэ ад самога міністра. І, здаецца, мясцовая грамадскасць, кіраўніцтва маглі ўжо з палёгкай уздыхнуць: «Ну вось, хоць дзе-небудзь, а дасягнулі патрэбнага ўзроўню». Але нават у такіх шчаслівых умовах, калі жыццё скранулася са сваёй застойнай кропкі, на шляху да лепшага шмат прагалаў і калдобін. Вось і ў калгасе імя Суворава цудоўная бальніца ёсць, неабходная медыцынская апаратура ёсць, а ўрачоў не хапае! Найвастрэйшая праблема для ўсёй сельскай медыцыны! Настолькі моцны ў свядомасці людзей стэрэатып, што ў вёсцы жыццё заўсёды цяжкае, нецікавае, што і відавочныя дасягненні ўспрымаюцца многімі пакуль насцярожана, з недаверам.

Вельмі добра, што на Віцебшчыне справа з аховай здароўя сялян набывае станоўчы дынамізм. Але калі паглядзець на ўсю Беларусь, то ўбачыш: медыкаў, усё грамадства чакае непачаты край работы. А месцамі нават некранутая цаліна. Але альтэрнатывы няма. Чалавеку ў жыцці патрэбна многа чаго. Кожны мае права на дастойнае жыццё. І сельскі жыхар, хлебароб, жывёлавод таксама. У гэта, нарэшце, паверылі ўсе.

Так, праблема павышэння якасці медыцынскай дапамогі на вёсцы стаіць вельмі востра. Пракаменціраваць стан спраў я папрасіла начальніка Галоўнага ўпраўлення медыцынскай дапамогі Міністэрства аховы здароўя БССР Аляксандра Зарына.

— Спынюся на асноўных, прынцыповых момантах. Першае. Адна з найгалоўнейшых задач—забяспечыць кожнаму сельскаму жыхару, дзе б ён ні жыў, магчымасць своечасова атрымаць неабходную медыцынскую дапамогу. Тут трэба ўлічваць раскіданасць вёсак, часам зусім невялічкіх, на Беларусі. Сёння сітуацыя склалася наступным чынам: на адлегласці да 6 кіламетраў ад кожнага сельскага паселішча знаходзіцца фельчарска-акушэрскі пункт (ФАП), 15-17-ці кіламетраў — амбулаторыя або ўрачэбны ўчастак. Мы лічым гэта ўжо нядрэнным. Але мяркуем і далей паляпшаць узровень першай медыцынскай дапамогі. У бліжэйшы час трэба размясціць ФАПы не далей, як за 4 кіламетры ад кожнага пацыента, а амбулаторыі—за 10-12 кіламетраў. Упэўнены, гэта будзе зроблена. А вось атрымаць дапамогу вузкіх спецыялістаў на вёсцы не заўсёды проста. Акулісты, неўрапатолагі, хірургі звычайна працуюць у цэнтральных раённых бальніцах. А туды не кожнаму даехаць лёгка, ды і чэргі на прыём таксама пакуль вялікія.

Другое. Амаль 80 працэнтаў нашых сённяшніх праблем у медыцыне ляжаць па-за медыцынай. Каб палепшыць матэрыяльны стан ФАПаў, іх пачалі браць на свой баланс мясцовыя калгасы і саўгасы. На жаль, і па сёння дзяржаўная медыцына яшчэ церпіць ад значнага недахопу матэрыяльных сродкаў. І з гэтым звязаны ўжо цэлы клубок складанейшых праблем. Вось у тым жа Докшыцкім раёне знайшлі магчымасць адбудаваць аб'екты сельскай медыцыны так, што прыемна паглядзець. А з медыка-тэхнічным абсталяваннем усё складана. Мы ж ставім задачу, каб кожная сельская ўчастковая бальніца мела свой паўнацэнны клініка-дыягнастычны блок, што занатавана і ў рэспубліканскай праграме «Здароўе», прынятай у канцы леташняга года.

Гадоў пяць-сем назад было вырашана пабудаваць у рэспубліцы 145 сельскіх амбулаторый. Да 1990-га года намечанае павінна быць поўнасцю выканана. Дарэчы, зараз мы маем у рэспубліцы 272 сельскія амбулаторыі і 451 участковую бальніцу. Гэта нямала. Але пакуль нельга быць задаволенымі іх якасцю.

Зараз наша рэспубліканская медыцына, у тым ліку і сельская, вызначыла для сябе, у якім напрамку развівацца, ісці далей. Першыя крокі ўжо зроблены. Пакуль толькі першыя.

**Галіна УЛІЦЁНАК.**






**НА ЗДЫМКАХ:** у калгас імя Гагарына Докшыцкага раёна прыехала перасоўная стаматалагічная ўстаноўка; медыцынская сястра Н. ДЗЕЎГУЦЬ гутарыць з пацыентам, ветэранам вайны і працы А. ЛІТВІНЁНКАМ (калгас імя Суворава, Пастаўскі раён).

Фота А. КЛЕШЧУКА і Я. ПЯСЕЦКАГА.

## ШТО АГУЛЬНАГА Ў АМЕРЫКАНКІ МАРТЫ СТЭГАР І БЕЛАРУСКІ НАДЗЕІ ЗАМЧЫНСКАЙ

# «ДЫПЛАМАТЫЯ» Ў ПІСЬМАХ

**Мы многа гаворым аб неабходнасці назаўсёды забяспечыць мір на нашай планеце. Да гэтага імкнуцца кіраўнікі дзяржаў, да гэтага імкнуцца народы. Шырокае развіццё ў апошні час атрымаў рух «народнай дыпламатыі»— сустрэчы і знаёмствы простых людзей з розных краін. На адной з сустрэч прадстаўнікоў гэтага руху і пазнаёміліся дзве жанчыны — беларуска Надзея ЗАМЧЫНСКАЯ і амерыканка Марта СТЭГАР. Неўзабаве яны рассталіся, але дружба не скончылася. Цяпер цераз акіян ляцяць іх пісьмы. Жанчыны лічаць, што чым больш людзей у розных краінах будуць падтрымліваць паміж сабой такія сяброўскія адносіны, тым у большай згодзе будуць жыць усе народы, усё чалавецтва. Надзея Замчынская нядаўна пабывала ў нас у рэдакцыі, расказала аб сваёй дружбе з Мартай Стэгар, паказала яе і свае пісьмы. З двума з іх са згоды аўтараў мы хочам пазнаёміць нашых чытачоў.**

Дарагая Надзея!

Як было прыемна сустрэць цябе ў час майго візіту ў Савецкі Саюз. Гэта адна з лепшых падзей майго падарожжа. Добра, што мы пазнаёміліся, у нас так многа агульнага. Я думаю, мы можам працягваць наша знаёмства праз перапіску. У мяне ёсць сябар, які ведае рускую мову і можа для мяне перакладаць твае пісьмы.

Я сустрэла цябе ў цудоўным горадзе Мінску. Ты была разам з іншымі прадстаўнікамі Беларускага камітэта абароны міру. Па тваіх расказах я даведалася, як многа робіць для справы міру ўвесь беларускі народ. Мы фатаграфаваліся ў парку Янкі Купалы. Я ўклала фота, каб у цябе была памяць аб нашай сустрэчы. Каб ты помніла, як я выглядаю, пасылаю і сваё.

У Маскве айцец Бэн і я наведалі канцэрт міру ў зале Чайкоўскага. Праграма ўключала Бетховена «Маё адзіноцтва», якую я спявала з сімфанічным аркестрам «Атланта» ў ЗША. У зале быў хор з універсітэта штата Мэрыленд ЗША, аркестр складаецца з еўрапейскіх музыкантаў. Дырыжыраваў Сетан Дораці. Салісты былі з СССР, ЗША і Даніі. Канцэрт цудоўны і вельмі хвалюючы. Усе месцы ў зале заняты. Для нас гэта было дзіўна. А як апладзіравалі! Авацыя працягвалася 12 мінут. Я плакала.

Хочацца адзначыць: паколькі пацяплелі адносіны паміж нашымі дзяржавамі, у мяне вялікія надзеі на супрацоўніцтва паміж СССР і ЗША. Я думаю, калі б нашы ўрады, нашы палітыкі, нашы народы больш разумелі адзін аднаго, мы даўно былі б вялікімі сябрамі. Гэты свет дастаткова вялікі, каб умясціць розныя тыпы грамадства. Я думаю, наладжваючы індывідуальную дружбу, мы ўносім свой уклад у справу міру. Паколькі наш вопыт падмацаваны вопытам тысячагоддзяў, мы будзем лепш разумець адзін аднаго і ўсё чалавецтва. Мы будзем менш баяцца стэрэатыпаў.

Вярнуўшыся з паездкі па вашай краіне, у размове з сябрамі я развеяла шэраг няправільных уяўленняў пра СССР. Я ўспамінаю, як мне падабалася кожная мінута знаходжання ў СССР, акрамя гарачыні, і спадзяюся пабываць і ў іншых раёнах вашай краіны. Я была ў Маскве, Ленінградзе, Вільнюсе і Мінску. А цяпер хацелася б паехаць у Кіеў, Тбілісі і Самарканд. Наведаць Байкал, зрабіць круіз па Волзе. Я вельмі хачу пабываць у Тбілісі, таму што Атланта і Тбілісі — гарады-пабрацімы. Нашы мэры абмяняліся візітамі. Атланта — горад з насельніцтвам 2 мільёны чалавек. Размешчаны на поўдні ЗША. Штат Джорджыя цягнецца ўздоўж Атлантычнага акіяна да гор Апалачаў. У Атланце 22 інстытуты і 2 універсітэты. Я працую ў адным з іх, тэхналагічным. Я — супрацоўнік даследчага аддзела. Мы публікуем вынікі даследаванняў у нас у інстытуце. Штат інстытута 1 400 вучоных і інжынераў. Мы працуем па кантрактах з урадам і бізнесам. Я тут працую 25 гадоў, аднак не маю тэхнічнай адукацыі. У каледжы я вывучала мовы і матэматыку.

Я разведзеная, мой былы муж — архітэктар. У мяне дзве дачкі: старэйшая Лін працуе прадстаўніком фірмы спартыўных тавараў. Але ў сапраўднасці яна мастак і спявачка. Жыве за 900 кіламетраў ад мяне ў Фларыдзе. Другая, малодшая Ліза замужам за Дэвідам, свяшчэннікам у маленькай царкве ў штаце Агая, за 1 25[illegible] [illegible]іламетраў ад Атланты. Ліза [illegible]цуе адміністратарам у доме для састарэлых. У іх трое дзяцей: Іерэнія, 16 гадоў, таленавіты скрыпач, хоча працягваць вучыцца музыцы. Цімаці, 14 гадоў, хоча быць і[illegible]ерам. Элізабет, 7 гадоў, таксама хоча быць музыкантам. Я іх усіх вельмі люблю, але яны далёка, бачуся з імі толькі два разы на год. У мяне адна сястра, якая жыве за 350 кіламетраў, у Джорджыі. Бацькі памерлі.

Я так люблю музыку. Спяваю ў мясцовым хоры з сімфанічным аркестрам. Наш хор пабываў у Вашынгтоне, Нью-Йорку і нават у Бельгіі. У лютым мінулага года мы спявалі на Украінскім фестывалі, адзначаючы 1000-годдзе Хрысціянства на Русі. Мы навучыліся спяваць па-ўкраінску. Сёлета мы будзем спяваць «Вяселле» Стравінскага на рускай мове. Я таксама вывучаю і спяваю раннюю царкоўную і фальклорную музыку. Вельмі цікаўлюся сімфанічнай музыкай, наведваю оперу. Другі мой інтарэс — археалогія, асабліва біблейская археалогія. Я двойчы пабывала ў Ізраілі, каб удзельнічаць у раскопках. Кірую студэнцкай археалагічнай групай. Акрамя таго, люблю турызм, хадзьбу пешшу. Хопіць пра сябе. Чакаю твайго пісьма і вельмі спадзяюся на сустрэчу ў будучыні.

Мір вам, Надзея!

**Марта СТЭГАР.**

ЗША, Атланта.

Добры дзень, Марта!

Атрымала тваё цікавае, вельмі змястоўнае пісьмо. Ты мне расказала пра сваё жыццё, уражанні аб знаходжанні ў нас, у Савецкім Саюзе. Гэта праўда, што ў нас з табой многа агульнага і мы адразу пасябравалі.

Ты — амерыканская жанчына, я — савецкая. І я згодна, што мы можам працягваць знаёмства праз перапіску.

Не магу пісаць пра сябе, каб не ўспомніць страшныя гады Вялікай Айчыннай вайны — гады майго дзяцінства, юнацтва. 1941-шы застаў мяне ў далёкім арэнбургскім піянерскім лагеры. Ніхто з нас, дзяцей, не думаў, што прыйдзецца пайсці на фронт са школьнай парты, абараняць сваю Радзіму ад злога ворага — нямецкага фашызму. Увесь народ падняўся на абарону сваёй Айчыны. Вучачыся ў школе, скончыла медыцынскія курсы таварыства Чырвонага Крыжа і Чырвонага Паўмесяца. Але школы нашы былі аддадзены пад шпіталі для раненых, а мы вучыліся ў вагонах, што стаялі ў тупіку каля чыгуначнай станцыі. Вагоны не ацяпляліся, было холадна, замярзала чарніла. А пасля школы, мы, дзяўчаты, ішлі ў шпіталь даглядаць раненых. Кармілі цяжкіх, мылі бінты, крывавыя гімнасцёркі. Прасіліся на фронт, старэйшыя тры сястры ўжо ваявалі, а мяне не бралі: непаўналетняя. Так мы, дзеці, пераступілі парог даросласці, таму што гэтага патрабаваў абавязак.

Я ўспамінаю, як з вокнаў нашага вагона, дзе мы вучыліся, былі відаць ваенныя эшалоны, што ішлі на захад з байцамі і зброяй.

Іншы раз поезд не спыняўся, байцы прасілі апусціць у паштовую скрынку пісьмы-трохкутнічкі родным, кідалі іх нам на хаду. Байцы клалі ў трохкутнічкі кавалачкі цукру, ведалі, як цяжка было нам, дзецям вайны.

Я ўсё ж трапіла на фронт, добраахвотнікам. Два гады без адпачынку. Ды і ці спалі мы, не помню. Тыднямі не распраналіся, не здымалі ботаў. А колькі хлапчукоў-салдат памірала на нашых руках са словам «мама». Цяжка ўспамінаць, але трэба помніць. Трэба помніць і ведаць, што можа прынесці людзям, усяму чалавецтву вайна.

Марта, ты была ў нас і пераканалася, якую вялікую работу мы праводзім у барацьбе за мір. Я, як член Камітэта абароны міру, займаюся выхаваўчай работай сярод моладзі. Мы, савецкія людзі, ведаем цану жыцця.

Я рада, што табе ў нас спадабалася. Ты пераканалася, што наш народ не хоча вайны, ён будуе м[illegible]ае жыццё. Народ наш д[illegible] гасцінны. Я ўспамінаю прыезд яшчэ адной дэлегацыі з ЗША ў Камітэт абароны міру. Сустрэча была цікавай. Мы разгаварыліся з жанчынай. [illegible] мастак, піша партрэты л[illegible]й многіх краін: эскімосаў, неграў, індзейцаў, а вось твар рускага чалавека не можа напісаць: ён уяўляецца ёй расплывістым.

Мы пазнаёміліся з ёю. Яна доўга ўглядалася ў мой твар і сказала, што абавязкова запомніць і напіша партрэт, але прасіла паставіць подпіс «Ураджайная». Мне ўсё роўна, што падпіша гэтая амерыканская жанчына, толькі я пераканалася, што ўяўленне ў яе пра нас ужо зусім іншае. Я заўсёды гавару, што перш чым скласці ўяўленне пра чалавека, трэба больш ведаць аб жыцці, гісторыі дадзенай краіны. А яна, відаць, не хацела ведаць. Я таксама падумала: убачыла б гэтая жанчына нас з табой — з розных краін, але аднолькавых, вясёлых.

Ты была на канцэрце ў зале імя Чайкоўскага. Вам пашанцавала: туды вельмі цяжка трапіць. А я была нядаўна на канцэрце ў Мінску амерыканскага хору з 15 штатаў «Адысея міру». Кіраўнік хору Рычард Роудс сказаў, што імкненне да міру і дружбы дапамагае яму арганізоўваць калектывы з розных штатаў, спевакоў царкоўных хароў, прафесіяналаў. «Усіх нас аб'ядноўвае адно,— сказаў ён,—варта спяваць, бо ў нас адно жыццё, адна музыка».

Пасля канцэрта мы ўсе спявалі песні на розных мовах — «Падмаскоўныя вечары», «Кацюшу». Вечар пакінуў вялікае ўражанне. Дружба народаў — гэта і ёсць шчасце і мір. Амерыканцы выказалі жаданне: сродкі за канцэрт пералічыць у Савецкі фонд міру.

Горад Атланта, у якім ты жывеш, цудоўны. Я бачыла пра яго перадачу па Цэнтральным тэлебачанні. Так што я з ім таксама пазнаёмілася. У гэтым горадзе скульптар з Савецкага Саюза будзе працаваць над абеліскам дружбы і міру. Грошы на будаўніцтва будуць сабраны жыхарамі горада Атланты. Значыць, нашы народы будуць будаваць мірны помнік. А гэта вельмі важна.

Мы з табой аднаго ўзросту, у нас па дзве дачкі, унукі. Скончылі універсітэты. Ты — у Атланце, я — у Мінску. У нас многа агульнага і адно імкненне— выхаваць сваіх унукаў і наступнае пакаленне ў міры і дружбе. Універсітэт я скончыла па спецыяльнасці правазнаўства. Доўгі час працавала на кінастудыі «Беларусьфільм», у дакументальным кіно. Мае матэрыялы друкуюць у прэсе, перадаюць па радыё. Многа грамадскай работы.

Старэйшая дачка Марына — педагог. Малодшая Інга — медык. Маюць свае сем'і, жывуць у Мінску. Я люблю літаратуру, музыку. У доме ёсць піяніна маркі «Роль Гюнтхер», нямецкі інструмент, вельмі прыгожа гучыць, яму каля 200 гадоў. Калі бывае крыху вольнага часу, саджуся і іграю. А разам збіраемся — спяваем беларускія і рускія песні. Акампануюць мне хто на чым. Тут і лыжкі драўляныя, і дзіцячы духавы інструмент, і інш. Любім тэатр, музыку, вершы. У мяне чацвёра ўнукаў, самаму маленькаму 8 месяцаў. Яго завуць Вадзім.

Марта, як бачыш, мы, савецкія жанчыны, няўрымслівыя. Узрост вызначаем не пражытымі гадамі. Нам яшчэ многа трэба зрабіць.

Я вяду перапіску з сябрамі з многіх краін свету: Англіі, ЗША, Новай Зеландыі, Польшчы, ФРГ, Балгарыі, ЧССР і іншых — і згодна з табой, што індывідуальная перапіска, дружба ўносяць свой уклад у справу міру, узаемаразумення паміж народамі. Мы спадзяёмся, што дружба паміж нашымі краінамі будзе расці і ўмацоўвацца: ёй пакладзены добры пачатак.

Міру табе! З павагай

**Надзея.**

г. Мінск.





**З задавальненнем адпачываюць студэнты Мінскага радыётэхнічнага інстытута ў Доме творчасці «Тэатральны». Звычайна змена працягваецца дванаццаць дзён. Пуцёўка каштуе 60 рублёў, але студэнты плацяць толькі 12. У час апошніх зімовых канікулаў тут адпачывала 70 чалавек.**

**Дом адпачынку размешчаны ў маляўнічай мясцовасці непадалёку ад Астрашыцкага Гарадка. Адсюль студэнты робяць пешаходныя прагулкі летам, а зімой на лыжах, у спорткомплекс Раўбічы, на вадасховішча Вячу, па месцах былых баёў. У «Тэатральным» ёсць спорткомплекс, па вечарах працуе дыскатэка. Адным словам, усе ўмовы, каб моладзі было зручна і весела.**

**НА ЗДЫМКАХ: у «Тэатральны» прыехала адпачыць трэцякурсніца Валянціна ШКЛЯНІК; у спортгарадку.**

**Фота Ю. ПАЎЛАВА.**

*ЦІКАВА ВЕДАЦЬ*

# МАСТАЦТВА ВЯСКОВЫХ МЕТАЛУРГАЎ

Здабыча жалеза з мясцовых балотных руд вядома ў Беларусі даўно. Па даных археалогіі, ужо ў першабытныя часы ў прымітыўных земляных печах-домніцах выплаўлялі жалеза, якое скарыстоўвалі для самых розных вырабаў. Пра гісторыю і геаграфію промыслу сведчыць тапаніміка, якая налічвае каля дзвюх соцень паселішчаў з назвамі, утворанымі са слоў «руда» ці «гута»: Рудня, Рудакі, Рудня Яварская, Высокая Гута і іншыя.

Паралельна з такімі прымітыўнымі руднямі ў другой палове XVIII стагоддзя ў розных месцах Беларусі з'яўляюцца прадпрыемствы мануфактурнага тыпу па выплаўцы жалеза і чыгуну — «жалезаробчыя заводы». Чыгуналіцейная вытворчасць хутка набыла шырокую папулярнасць. Танны, атрыманы з мясцовай сыравіны матэрыял прымяняўся не толькі для выплаўкі жалеза, але быў прыгодны і для мастацкага ліцця, прычым з самым тонкім малюнкам дэкору. З чыгуну адлівалі садовыя лаўкі, архітэктурныя элементы, хатняе начынне. Асабліва значную групу складаюць намагільныя помнікі, пліты, крыжы, агароджы і інш. Гэтыя вырабы ліцейшчыкаў уражваюць надзвычайнай разнастайнасцю форм і багаццем дэкору. Помнікі могуць мець выгляд калоны, тумбы, ствала дрэва з абсечанымі галінамі, звычайнага ці быццам сплеценага з галінак крыжа і розныя іншыя адмысловыя формы і абрысы. Такой жа разнастайнасцю вызначаецца і стылістыка іх: тут можна бачыць праявы і гатычных, і барочных, і класіцыстычных традыцый, а часцей — самае адвольнае іх спалучэнне.

Як сведчаць статыстычныя даныя, буйнейшым і найлепш аснашчаным металургічным і металаапрацоўчым прадпрыемствам можна лічыць Налібоцкі завод, заснаваны ў сярэдзіне



XIX стагоддзя князем Вітгенштэйнам. Калі ж быць больш дакладным, гаворку трэба весці пра Налібоцка-Кляцішчанскі комплекс заводаў, якія дзейнічалі адначасова ў двух суседніх паселішчах сучаснага Стаўбцоўскага раёна.

Геаграфія распаўсюджання прадукцыі заводаў досыць абмежаваная — на могілках у Налібоках і нав ных паселішчах (у Кляціш сваіх могілак няма). Найбольшая колькасць вырабаў амаль аднатыпных форм знаходзіцца якраз на налібоцкіх могілках, на суседніх — у Дзераўной і Камені — толькі па некалькі ўзораў, а на больш аддаленых іх характар іншы. Думаецца, што гэта з'яўляецца досыць пераканаўчым доказам прыналежнасці вырабаў Налібоцкаму і Кляцішчанскаму заводам.

Адразу ж пасля заснавання Налібоцкі завод хутка выйшаў на адно з першых месцаў у Расіі. Тры доменныя печы давалі да 500 тысяч пудоў чыгуну ў год, што раўнялася прадукцыі толькі найбольш магутных домнаў Урала. Умовы для дзейнасці завода былі спрыяльныя: Налібоцкая пушча давала паліва, рэчка Лебяжаць — ваду, балотная руда таксама здабывалася паблізу. Энергетычныя патрэбы завода забяспечвалі 7 паравых і адзін вадзяны рухавікі. Яны абслугоўвалі доменныя печы, пракатныя станы, такарныя і стругальныя станкі, стопудовы молат. Значныя памеры завода пацвярджае і колькасць занятых на ім рабочых: на першым часе больш за 600. Аднак ужо праз дзесятак гадоў справы на заводзе пагоршыліся, пра што сведчыць як значнае, у два разы, змяншэнне колькасці рабочых, так і зніжэнне амаль у пяць разоў аб'ёму прадукцыі. Далейшыя звесткі па заводу адсутнічаюць, вядома толькі, што працаваў ён з перабоямі, а неўзабаве наогул перастаў выплаўляць чыгун з балотнай руды, не вытрымаўшы канкурэнцыі з больш рэнтабельнымі ўральскімі і паўднёварасійскімі заводамі.

Згодна з дакументальнымі звесткамі, Налібоцкі завод амаль не займаўся ліццём з чыгуну, выпрабляючы з яго гатунковае жалеза, якое вывозілася ў беларускія і прыбалтыйскія губерні. Кляцішчанскі завод, які дзейнічаў, відаць, значна даўжэй, перайшоў на задавальненне патрэб наваколля ў чыгунным ліцці. Большасць узораў ліцця датавана 70, 80 і нават 90-мі гадамі XIX стагоддзя, калі Налібоцкі завод, ператварыўшыся ў невялікае металаапрацоўчае прадпрыемства, самастойнай выплаўкай чыгуну ўжо не займаўся. У жыхароў Кляцішча яшчэ жывыя ўспаміны пра дзейнасць мясцовага завода, да нядаўняга часу тут узвышаліся горы шлаку, якім цяпер высыпаны мясцовыя дарогі.



У старой частцы досыць вялікіх могілак у Налібоках узораў чыгуннага ліцця шмат — добрая сотня. Аднак нельга сказаць, што яны вызначаюцца вялікай разнастайнасцю форм і багаццем дэкору. Ствараецца ўражанне, што завод, арыентуючыся на мясцовых заказчыкаў сярэдняга дастатку, не мог дазволіць раскошы — займацца унікальным ліццём складаных адмысловых форм. Пераважная большасць помнікаў уяўляе сабой звычайныя чатырохканцовыя крыжы даволі простых абрысаў, якія, відаць, адліваліся серыйна. Толькі авальныя ці прамавугольныя дошкі-эпітафіі выконваліся згодна з канкрэтным тэкстам заказчыка.

Сустракаюцца ўзоры, выкананыя і па спецыяльных заказах.

Яны маюць досыць складаныя формы, скампанаваныя з некалькіх частак. Пірамідальную чыгунную тумбу ўвенчвае крыж у выглядзе перавітых парасткамі убкаў дрэва. Відаць, па спе льных заказах адліта некалькі намагільных пліт. На гладкім прамавугольным фоне — рэльефны малюнак ніцага дрэва каля труны і надпіс эпітафіі. Рэльеф чысты і выразны па малюнку. З чыгуну адліта і некалькі агароджаў. Яўна мясцовае паходжанне маюць не сустрэтыя ў іншых месцах вырабы, скампанаваныя з круглых, нібыта вытачаных стоек з валютападобнымі завяршэннямі. Адліваліся яны цэлымі звеннямі. Варта адзначыць, што характар дэкору іх значна больш набліжаны да ўласна ліцця, чаго не скажаш пра іншыя агароджы, якія нагадваюць кавальскія вырабы з гладкіх стрыжняў.

Новыя звесткі, якія, магчыма, удасца з часам выявіць у архівах, дапамогуць больш канкрэтна разабрацца ў мастацкай спадчыне беларускіх ліцейшчыкаў, якія пакінулі безліч цікавых твораў.

**Яўген САХУТА.**

**НА ЗДЫМКАХ: узоры кляцішчанска-налібоцкага ліцця другой паловы XIX стагоддзя.**

**Фота аўтара.**

## *спорт*

Мінчане Ю. Крывахіжа і А. Кавалёў уключаны ў зборную каманду краіны, якая рыхтуецца да чэмпіянату свету па хакею. Спаборніцтвы пройдуць у Швецыі. Савецкія спартсмены ў таварыскіх сустрэчах перамаглі ў Фінляндыі хакеістаў гэтай краіны з лікам 6:0 і 4:1. Адну шайбу закінуў А. Кавалёў.

Вядомая мурманская Даліна ўтульнасці стала месцам спаборніцтва біятланістаў СССР, ГДР, Польшчы, Чэхаславакіі, Балгарыі і Аўстрыі. Госці так і не змаглі саставіць канкурэнцыю нашым спартсменам у барацьбе за прызавыя месцы. Затое паміж савецкімі біятланістамі ішла напружаная барацьба за прызы. Так, мінчанін Сяргей Булыгін у гонцы на 20-кіламетровай дыстанцыі ўступіў Сяргею Ложкіну з Іжэўска толькі дзве секунды і заняў другое месца.

У спорткомплексе «Алімпійскі» праходзіў традыцыйны міжнародны турнір па спартыўнай гімнастыцы на прызы газеты «Московские новости». Бясспрэчным фаварытам на ім была сярод жанчын алімпійская чэмпіёнка мінчанка Святлана Багінская. Тры залатыя медалі ў беларускай гімнасткі.

З усесаюзных першынстваў адзначым поспех баскетбалістак «Гарызонта». Яны ўпэўнена выступілі ў чэмпіянаце СССР і дамагліся права гуляць у суперфінале за залатыя медалі з камандай маскоўскага ЦСКА. Незалежна ад вынікаў гэтых сустрэч беларускія баскетбалісткі «забраніравалі» сабе месца ў чарговым розыгрышы аднаго з еўрапейскіх кубкаў.





**Члены спартыўна-тэхнічнага клуба ДТСААФ лідскага вытворчага аб'яднання «Лакафарба» ў ліку першых у рэспубліцы перавялі клуб на гасразлік і пачалі самастойна зарабляць грошы і на развіццё сваёй тэхнічнай базы, і на спартыўныя мерапрыемствы. Рахунак у банку папаўняецца ў значнай меры выручкай ад здачы макулатуры і металалому. Значнай крыніцай даходу стаў пракат грузавых аўтамашын. Дарэчы, гэтыя аўтамабілі, спісаныя ранейшымі гаспадарамі як непрыгодныя, члены клуба адрамантавалі самі. Яны навучыліся будаваць дэльтапланы, катамараны, аднамесныя лодкі-каякі, шыць палаткі, касцюмы і іншы спартыўны рыштунак. Ужо многія кіламетры па родным краі адмералі лідчане з такім рыштункам. Пабывалі ў Карпатах, на Каўказе, у Карэліі, Сібіры, на Алтаі.**

**НА ЗДЫМКАХ: перад палётам; з вялікім стараннем авалодваюць спартыўнай тэхнікай браты А. і С. ЦІШУКІ.**

**Фота В. АЛЯШКЕВІЧА.**

## НАДЗЕЯ ДУРАВА — ГЕРОЙ АЙЧЫННАЙ ВАЙНЫ 1812 ГОДА

У Ваўкавыску, што на Гродзеншчыне, дзейнічае ваенна-гістарычны музей імя П. Баграціёна. Сярод партрэтаў герояў вайны 1812 года тут вісіць партрэт Надзеі Дуравай. У музеі захоўваюцца таксама гістарычныя матэрыялы, што расказваюць пра жыццё і дзейнасць «амазонкі Белай Русі». Н. Дурава (1783—1866) паходзіла са старажытнага смаленска-полацкага роду Тураўскіх. Яе продкі насілі прозвішча Туравы, якое з часам русіфікавалася ў Дуравы.

У 1806 годзе Надзея ўцякла з дому, пераапранулася ў мужчынскае адзенне і, назваўшыся Аляксандрам Дуравым, паступіла добраахвотнікам у Гродзенскі уланскі полк, удзельнічала ў польскім паходзе 1807 года і ў Айчыннай вайне 1812-га.

За праяўленую храбрасць у баях супраць ворагаў народаў Расіі Н. Дурава атрымала некалькі баявых узнагарод і была ўзведзена ў афіцэры. Першая жанчына-афіцэр у рускай арміі некаторы час служыла ардынарцам пры штабе фельдмаршала М. Кутузава. Надзея Андрэеўна з'яўляецца аўтарам рамана «Гудзішкі», аповесцей і апавяданняў, якія былі прыхільна ацэнены А. Пушкіным і В. Бялінскім. Яна таксама прататып шырока вядомых савецкаму гледачу п'есы «Даўным-даўно» і знятай па гэтай п'есе кінакарціны «Гусарская балада».

**І. ШПАДАРУК.**

## *У ДАР МУЗЕЮ КАЛІНОЎСКАГА*

Больш 200 розных знаходак — вынік археалагічных раскопак на сядзібе ў вёсцы Якушоўка Свіслацкага раёна, дзе да 1855 года жыла сям'я будучага кіраўніка народнага паўстання К. Каліноўскага. Сярод выяўленых прадметаў быту і дамашніх прылад — рэшткі пабудоў фабрыкі льнопалатна, што належала Каліноўскім. Знойдзена фірменная пячатка, якая ставілася на вялікіх партыях гатовай прадукцыі.

Гэтыя і іншыя рэчы будуць перададзены ў музей К. Каліноўскага, месцам стварэння якога стане былая сядзіба.

**РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ**

**НАШ АДРАС:**

**МІНСК-ГСП, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.**
**ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.**

**Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.**
Індэкс 63854. Зак. 385